Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

25 ЧЭРВЕНЯ – 1 ЛІПЕНЯ 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 30000 РУБЛЁЎ
№26 (218)

## АДНА ЗЯМЛЯ

ВАЛОЖЫН

### Палачка ліквідаваная

На геабазе БДУ, што ля вёскі Калдыкі, пагаспадарыла кішэчная палачка. 8 студэнтаў шпіталізавалі, астатнім (усяго на той час іх было тут 63) дапамога аказаная на месцы.

Адразу, як толькі паступіў сігнал пра сімптомы хваробы – а 3–й гадзіне ночы – медыкі былі на геабазе. Інфекцыю выявілі ў водаправоднай вадзе. Медыкі спрацавалі аператыўна, ачаг ліквідаваны.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

СМАРГОНЬ

### Штраф замянілі папярэджаннем

Вясной райсуд разгледзеў справу аб адміністрацыйным парушэнні юрыстам Алесем Дзергачовым. Ён абвінавачваўся "в использовании во время пикета плакатов, содержание которых наносит ущерб конституционному строю, оскорбляет руководство государства". Вырашана было аштрафаваць А. Дзергачова на 5 мільёнаў рублёў з канфіскацыяй плаката.

А. Дзергачоў з пастановай суда не згадзіўся і абскардзіў яго рашэнне ў абласным судзе, але той пастанову не адмяніў. Тады А. Дзергачоў звярнуўся да старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь В. Сукалы, які пастанавіў штраф замяніць папярэджаннем.

*Віктар ШОЦЬ.*

ВІЛЕЙКА

### Галоўны інжынер на "Полі цудаў"

Галоўнага інжынера гарадскога вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі **Анатоля Додрыкава** запрасілі ў Маскву на перадачу "Поле цудаў".

Запіс адбудзецца ў гэтыя выхадныя. Герой адной з нашых ранейшых публікацый пасля вяртання абяцаў падзяліцца сваімі ўражаннямі.

*Аддзел інфармацыі.*

СМАРГОНЬ

### Крэўскія магазіны як люстэрка нашай эканомікі

Да 1994 года ў мястэчку Крэва было 8 магазінаў: прадуктовы, прамтаварны, мэблевы, нарыхтоўчы, уцэненых тавараў, гаспадарчы, кніжны і па прыёме шклатары. Сёння іх тут толькі 2: прадуктовы і прамтаварны (4 ліквідавалі, а кніжны і гаспадарчы аб'ядналі з прамтаварным).

Нягледзячы на аб'яднанне, большасць паліц у магазіне засталіся пустымі. Напэўна, каб гэта менш кідалася ў вочы пакупнікам, сёлета гандлёвую залу ў аб'яднаным магазіне паменшылі ў два разы.

*Віктар ШОЦЬ.*

МАЛАДЗЕЧНА

### Смяротны прыгавор "Пелікану"

Павільёну "Гордый пеликан", што па вуліцы Будаўнікоў, вынесены смяротны прыгавор – гарвыканком вырашыў яго закрыць.

Акрамя жыхароў, якія скардзяцца на забруджанасць двароў, у барацьбу супраць продажу ля царквы спіртных напіткаў выступілі вернікі.

*Аддзел інфармацыі.*

БЕРАЗІНСКАЕ

### Беразінцы аддалі кубак «Атланту»

*У мінулыя выхадныя ў Беразінскім у чарговы раз прайшоў традыцыйны турнір па міні–футболе.*

Стала, бадай, традыцыяй, што гаспадары пляцоўкі ў фінале прайграюць камусьці з гасцей. На гэты раз мацнейшым быў сталічны «Атлант», за які выступалі некалькі ўдзельнікаў чэмпіянату свету па фут–зале, у тым ліку, і лепшы бамбардзір першынства краіны Сяргей Лагутка, якому «РГ» уручыла прыз, як лепшаму абаронцу. Падрабязнасці футбольнага свята – на 9–й старонцы ў «Сектары спорту».

*Аддзел інфармацыі.*



*Старшыня аргкамітэта турніру «Беразінскае–99» Генадзь Гаўрыс з пераходным кубкам у руках незадоўга да адкрыцця спаборніцтваў.*

ФОТА ДЗМІТРЫЯ ХАРЫТОНАВА.



# Пакінуты бераг

## Наш зямляк Уладзімір Някляеў не хоча вяртацца ў Беларусь

Смаргонь у лёгкім здранцвенні. Ураджэнец Крэва, "галоўны пісьменнік" краіны Уладзімір Някляеў заявіў у Варшаве, што вырашыў застацца ў Польшчы. Мы звязаліся па тэлефоне з першым беларускім эмігрантам, які атрымаў пасля 1996 года палітычнае прыстанішча ў Польшчы, **Янкам Чурыловічам**, журналістам і сёлетнім студэнтам–выпускніком факультэта эканомікі Варшаўскага універсітэта.

Янка Чурыловіч пацвердзіў інфармацыю аб Някляеве, распаўсюджаную ў Беларусі: – Гэта так. Новае тут тое, што Някляеў ніколі, па вялікім рахунку, не прыналежаў да апазіцыі. Польскія ўлады стаяць перад праблемай, ці даваць прыстанішча не толькі прадстаўнікам апазіцыі, але і людзям больш талерантным да афіцыйных уладаў.

—У першапачатковай інфармацыі не гаварылася прама аб тым, што Някляеў просіць прытулку. Кажуць толькі пра нежаданне вяртацца ў Беларусь.

—А як не вяртацца? У такім разе можа наступіць экстрадыцыя. У Польшчы нельга жыць без дазволу на працу, па беларускіх паперах... З'яўляецца праблема візы. Калі ж афармляецца заява на прытулак, то ставіцца віза на пэўны час, што спрашчае шмат чаго.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*



*Уладзімір Някляеў на фестывалі песні і паэзіі «Маладзечна–98» у гарадскім парку.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

Наш карэспандэнт у Смаргоні ***Ала СТРАШЫНСКАЯ*** спрабавала размаўляць з людзьмі, якія блізка і даўно ведаюць Уладзіміра Някляева. Усе адгукаліся пра яго добра, але з пазнакай: не для прэсы. Толькі да гонару загадчыцы аддзела культуры райвыканкома **Соф"і Лазар**, апошняя не рабіла ніякіх рэмарак да сваіх слоў. Соф"я Іванаўна кажа, што за доўгія гады знаёмства з Уладзімірам Някляевым яна ні разу не расчаравалася ў яго чалавечых якасцях. Ён часта прысутнічаў на святах і фэстах, што праводзіліся на смаргоншчыне. Шмат чым дапамагаў землякам. Не ведаю, – гаворыць Соф"я Лазар, – чым выклікае яго жаданне застацца за мяжой, але адчуваю боль і горыч з–за таго, што такі таленавіты паэт і цудоўны чалавек пакідае Беларусь. Дзеля развіцця літаратуры і культуры ён зрабіў так шмат.

*Уладзімір НЯКЛЯЕЎ*

### Пакінуты бераг

Перад зярнятамі,
што прападалі,
Схілімся долу.
Не выпадае, не выпадае
Вылічыць долю.

З берага
ветрам пакошаных траў
Цягне да неба.
Толькі ў вышынях,
куды прарастаў,
Цёмна і нема.

...Зорка зрываецца, як з далані
Кропля блакітная...
Не падмані, не падмані,
Бераг пакінуты.

СПРАВЫ СУДОВЫЯ

# На ланцугу ...

*МАЛАДЗЕЧНА–ВІЛЕЙКА. Тры тыдні цягнуўся суд над работнікамі Маладзечанскага медыцынскага вучылішча і яго дырэктарам Ларысай Тамошкінай. Днямі справу адправілі на даследаванне. Мінулай восенню "РГ" пісала пра ўзбуджэнне дзвюх крымінальных спраў па фактах атрымання хабару ў медвучылішчы.*

51–гадовая **Ларыса Тамошкіна** на судзе сядзела ў клетцы. Да рукі яе прымацавалі ланцуг, канец якога трымаў міліцыянер, што сядзеў побач.

Ёй інкрымінуецца 6 эпізодаў злачыннай дзейнасці: хабар у 250 долараў; у 700 долараў; у 100 долараў і 120 долараў медыкаментамі; хабар прадуктамі (лікёр, цукеркі, кілбаса); два службовыя падлогі. Яе калегі–падсудныя за краты пасаджаныя не былі. Акрамя таго, суду прадаставілі дакументы, якія сведчаць, што адна падсудная – інвалід II групы, другая – анкалагічна хворая, трэцяя – цяжарная. Хутчэй за ўсё, сур"ёзна адказваць прыйдзецца толькі Ларысе Тамошкінай. Яе артыкул "цягне" ад 5 да 15 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Пракурор запрасіў 3,5 гады. Пракаменціраваць папярэдні прысуд мы папрасілі начальніка Маладзечанскага міжрайаддзела абласнога ўпраўлення камітэта па арганізаванай злачыннасці і карупцыі **Віталя Дубовіка**. Менавіта па матэрыялах аддзела была ўзбуджаная гэтая крымінальная справа.

– Мы ні ў якім разе не можам уплываць на судовы працэс, – сказаў ён, – калі падыходзіць гуманна, можа, немаладой жанчыне ўжо і хапіла б – як–ніяк, 10 месяцаў за кратамі. Вось калі б мацёраму бандыту палёгка была – іншая справа.

– Я знаёміўся з гэтай крымінальнай справай, – гаворыць старшыня Маладзечанскага суда **Раман Шалоха**, – абласны суд вырашыў разглядаць яе ў Вілейцы. Не хачу і не магу расстаўляць нейкія акцэнты. Відавочнае адно – у медвучылішчы існавала сістэма атрымання хабару. Замыкалася яна на дырэктары ці не – няхай вырашаюць калегі з Вілейкі.

– Ларыса Тамошкіна калі што і брала, то, лічу, трацiла гэта на патрэбы вучылішча, – гаворыць выконваючая абавязкі дырэктара медвучылішча **Галіна Гембіцкая**, урач–практык. – Ларысу трэба ведаць. У яе жыцці нічога не было, акрамя работы.

#### Прыемная інфармацыя

Пачала работу прыёмная камісія медвучылішча. Абітурыенты і іх бацькі ўпэўненыя, што сёлетні конкурс будзе вялікі, як ніколі, – залічэнне пройдзе без хабару.

#### Пытанні

Падчас паступлення ў ВНУ, сярэднія спецыяльныя установы павінны дзейнічаць так званыя "прэзідэнцкія камісіі". Хто апошнім часам кантраляваў працэс паступлення ў медвучылішча? Няўжо ніхто не заўважыў выпраўлення адзнакі ў афіцыйных дакументах?

ВАЛОЖЫН. Амаль у адзін і той жа час тут разглядалася ў судзе другая крымінальная справа аб дачы і атрыманні хабару адказнымі асобамі Маладзечанскага медвучылішча. На лаве падсудных апынуліся 4 чалавекі. Пракурор прасіў аднаму з тых, хто бралі, 4 гады пазбаўлення волі, другому – 3 гады ўмоўна; па 3 гады ўмоўна ён адмяраў і двум чалавекам, якія давалі хабар. Вёў працэс суддзя **Анатоль Зянько**. Справы таксама накіраваная на даследаванне з прычыны «непаўнаты праведзенага папярэдняга расследавання і парушэння заканадаўства пры яго праўдзенні».



*Цяпер у медвучылішчы — сесія.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ, Наталля ШТЭЙНЕР.*

ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# У Маладзечне прадпрымальнікі вынаходлівыя

*МАЛАДЗЕЧНА. Нягледзячы на змяншэнне колькасці працуючых прыватных фірмаў, на працягу апошніх год недзяржаўны сектар эканомікі стабільна ўтварае 30% фінансавых сродкаў гарадскога бюджэту.*



*Першы намеснік старшыні маладзечанскага гарвыканкома Яфім Ідэльчык спадзяецца на развіццё прыватнага бізнесу ў Маладзечне.*

ФОТА З АРХІВА "РГ".

У першай палове 90-х ішоў працэс масавага захаплення ўласным бізнесам, калі прыватны сектар ветліва прымаў усіх жадаючых, якія апынуліся па-за дзвярыма дзяржаўных прадпрыемстваў. Адным не было куды больш падацца, іншыя ў запале энтузіязму распачыналі сваю прадпрымальніцкую дзейнасць.

З другой паловы 90-х пачаўся адваротны працэс - масавых ліквідаванняў. Цяпер становішча больш-менш нармалізаванае. Па афіцыйных дадзеных, беспрацоўе ў горадзе на мінімальным узроўні. Нават назіраецца тэндэнцыя да зніжэння.

Чуткі пра тое, што сёння немагчыма распачаць прыватны бізнес, абвяргае першы намеснік старшыні выканкома **Яфім Ідэльчык**.

- Сёлета, - гаворыць ён, - зарэгістраваныя каля дзесятка новых прадпрыемстваў. Сапраўды, дзяржаўны падыход да адкрыцця прыватных фірмаў змяніўся. Але ён абгрунтаваны. Раней быў спрошчаны механізм рэгістрацыі, калі кіраўніком мог стаць кожны, нават псіхічна хворы чалавек, ці за якім вадзіліся фінансавыя грахі. Цяперашні механізм рэгістрацыі мае на мэце засцераганне прыватнага сектара эканомікі ад нядобрасумленных дзялкоў. І толькі.

Масавыя ліквідацыі, як вынік парушэнняў фінансавай дзейнасці, у асноўным, закранулі гандлёва-пасрэдніцкія фірмы. Раней з усіх прыватных толькі 10-15% займаліся вытворчасцю. Цяпер іх пераважная большасць.

Сёння ў горадзе прыярытэт набываюць так званыя малыя дзяржаўныя (ці паўдзяржаўныя) прадпрыемствы. Накшталт "Дарвектара", які займаецца вытворчасцю дарожнай тэхнікі. Знайшлі сваю зручную форму існавання электратэхнічнае АТ "ЭНЭФ", швейныя МП "Тракт", ВКФ "Сатэр".

У Маладзечне распачаты буйны праект, які прадугледжвае стварэнне каля 60 працоўных месцаў, – завод па вытворчасці шклатары. Займаецца ім цяпер ПП "Сяідатэхнаполіс".

- Атрымліваецца, - удакладняе Яфім Ідэльчык, - хто хоча займацца справай, для таго і перспектывы існуюць. Трэба падстрахоўваць людзей, якія маюць ідэі і розум.

На думку першага намесніка, асноўныя праблемы для пачынаючага прыватнага бізнесу сёння – вялікая канкурэнцыя паміж існуючымі фірмамі і фінансаванне. Цікавых праектаў у маладзечанскіх прадпрымальнікаў шмат, але ўсё упіраецца ў грошы. Праблема, у прыватнасці, з валютнм рэгуляваннем. Але, можа, трэба лепш самім выраблязь звычайныя якасныя рэчы, чым завозіць іх з-за мяжы. Будзе нашая прадукцыя адпавядаць сусветным стандартам - адпадзе і валютная праблема.

**- Як вы лічыце, умовы для прадпрымальніцкай дзейнасці ў Маладзечне сёння лепшыя ці горшыя, чым у іншых гарадах рэгіёна?**

- Мне падабаецца Маладзечна. Я ўлюбёны ў гэты горад. Таму лічу, што ў нас усё лепш, чым дзе-небудзь. Але спрачацца з віляйчанамі ці смаргонцамі не пачну.

*Святлана САРОКА.*

АЗДАРАЎЛЕННЕ

# Па асабістым плане

ВІЛЕЙКА. Падчас летніх канікулаў Марыя і Ігар Вірэлісы ўзялі да сябе жыць двух навучэнцаў мясцовай спецшколы–інтэрната. Ад панядзелка да пятніцы сям'я (акрамя гаспадыні) дні праводзіць на вадасховішчы. А на выхадныя прыязджае дадому, у інтэрнат ПТВ №124. Менавіта там Вірэлісы маюць два пакоі. Адзін з пакояў (з тэлевізарам) прапанавалі 16–гадоваму Віталіку і 15–гадоваму Руслану. Самі гаспадары (яшчэ ў іх 10–гадовая Волечка) уладкавалася ў другім, уціснуўшы дадаткова жалезны ложак.

Віталік і Руслан з Мінска. "Часовы" бацька (па ўзросце, хутчэй, брат) ім добра знаёмы. Ігар – выхавацель у іх спецшколе. Былы кадравы ваенны, ён і цяпер падтрымлівае добрую фізічную форму.

На вадасховішчы Віталік і Руслан бегаюць з Ігарам па 5–6 кіламетраў, спасцігаюць майстэрства веславання на каноэ, сняданак і вячэру гатуюць на кастры. Спецшкола на харчаванне выдзеліла прадукты. Абедаюць жа ўсе ў спартыўным лагеры – за пуцёўкі Вірэлісы праплацілі. Начуюць на спартыўнай базе.

Віталік больш ціхі, Руслан – наадварот. Любіць гуляць з Волечкай. Бывае, дражніцца – рожкі ёй ставіць. А тая абураецца, маўляў, я ўжо не малая.

Хлопцы за сабою мыюць посуд, мыюць сваю бялізну, падтрымліваюць чысціню ў пакоі. Мыць футболкі, джынсы ім пакуль не давяраюць. Найбольшую ж цікавасць у школьнікаў выклікае працэс прыгатавання ежы.

– Што сёння на вячэру, блінчыкі? – пытаюцца з азартам. І ахвотна бяруцца дапамагаць на кухні. Ім усё падабаецца. Ніколі не скажуць, што страву дасаліць трэба ці нейкім соусам запрaвіць. Праўда, не ўсё ў іх і атрымліваецца. Разам з гаспадыняй гатавалі бульбяныя аладкі. А потым:

– Вы самі смажце, бо пераварочваць не ўмеем.

Не ўсе суседзі і знаёмыя Вірэлісаў разумеюць. Адныя гавораць:

– Мы б ніколі дарослых хлопцаў не ўзялі. Іх карміць трэба.

Іншыя заўсёды пытаюцца:

– Як там Віталік і Руслан?

І перадаюць ім пачастункі.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 16.06 | 23.06 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 505 | 505 |
| Кілбаса с/в | 1 кг | 1150 | – |
| Сасіскі | 1 кг | 505 | 505 |
| Селядзец салёны | 1 кг | 330 | 330 |
| Рыс | 1 кг | 200 | 200 |
| Цукар | 1 кг | 136 | 135 |
| Грэчка | 1 кг | 250 | 250 |
| Алей | 1 л | 370 | 370 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 138 | 138 |
| Маянэз | 250 г | 70 | 70 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 440 | 450 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 120 | 120 |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 120 | 120 |
| Лімоны | 1кг | 509 | 470 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 200 | 220 |
| Масла | 1 кг | 500 | 450 |
| Тварог | 1 кг | 200 | 200 |
| Малако | 1,5 л | 60 | 60 |
| Бульба | 1 вядро | 430 | 300 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 180 | 180 |

# Один с сошкой...



*Маладзечанскі калгасны рынак у мінулы панядзелак.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

# Сапраўдны вугор – з лесу

Нядаўна ездзіў адпачываць на возера Нарач. Каля развілкі дарогі на курортны пасёлак Купа і горад Мядзел маладыя хлопцы гандлююць вэнджаным вугром.

Гандлююць арыгінальна: у руках трымаюць палку (падобную на вугра) на выпадак, калі пад'едзе міліцыя. Ну, а калі спыніцца пакупнік, з лесу выносяць сапраўднага вугра. За кілаграм просяць 3000000 рублёў ці 7 долараў, але могуць трохі і саступіць.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

# Пра смаргонскі бізнес

*СМАРГОНЬ. Спыненне дзяржаўнай рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання зменшыла колькасць пачынальнікаў уласнага бізнесу. Сёлета на Смаргоншчыне зарэгістраваныя толькі 4 камерцыйныя прадпрыемствы і 19 прадпрымальнікаў, што ў 2 разы менш за леташні адпаведны тэрмін.*

Відавочна, што бярэцца арыентацыя на вытворчасць. Два новаспечаныя прадпрыемствы распачалі лесанарыхтоўку і перапрацоўку драўніны, адно аказвае транспартна–эксплуатацыйныя паслугі і яшчэ адно выpабляе прадукты з мяса птушкі.

Усяго ў раёне цяпер дзейнічаюць 109 прадпрыемстваў малога бізнесу, 33 фермерскія гаспадаркі і 708 прадпрымальнікаў.

– Малому бізнесу ў Смаргоні надаецца пільная ўвага, – гаворыць намеснік старшыні райвыканкома Анатоль Гнілазуб.

З 28 вытворчых малых прадпрыемстваў эфектыўна працуюць НВП "Время V", ВФ "Дэкор", ТАА "Імпа", МП "Будіндустрыя", ВКФ "Гурон", ВП "Прамсервіс". Сёлета грашовы аб'ём іх гандлёвай прадукцыі павялічыўся ў 4 разы. Але частка фірмаў практычна спыніла сваю дзейнасць з–за адсутнасці сыравіны. Падае ўдзельная вага ў тавараабарачэнні гандлёва–закупачных прадпрыемстваў.

18 прыватных прадпрыемстваў Смаргоншчыны вядуць знешні гандаль, аб'ём якога складае больш за палову раённага. Але трэба канстатаваць, што экспарт у 2 разы перабольшвае імпарт, а ўвогуле, знешнегандлёвае абарачэнне падае.

Вясной райвыканком зацвердзіў Праграму падтрымкі малога прадпрымальніцтва. Вырашана, што прадпрыемствы недзяржаўнай уласнасці будуць забяспечвацца гандлёвымі рэсурсамі нароўні з дзяржаўнымі. Але гэтых рэсурсаў, як заўсёды, недастаткова. Таму размяркоўваюцца яны ў адпаведнасці з доляй удзельнай вагі ў агульным тавараабарачэнні.

Напрыклад, доля ТАА "Спектр" складае 23,6%, таму яно і атрымлівае малочных і мясных прадуктаў больш за іншых. Абдзеленымі засталіся прыватныя фірмы, тавараабарачэнне якіх складае менш за 800 мільёнаў рублёў у месяц. Яны не забяспечаныя фондамі, павінны самі адшукваць гандлёвыя рэсурсы. Іх агульны стан, безумоўна, пагаршаецца.

Згодна з распрацаванай праграмай падтрымкі малога бізнесу, смаргонскае кіраўніцтва хадайнічае аб аказанні фінансавай дапамогі. З Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці яна дадзеная МП "Согласие" пад стварэнне 17 працоўных месцаў. ВКП "Дарвес" атрымала 1,2 мільярда рублёў пад 10 новых працоўных месцаў. Цяпер афармляюць дакументы на дапамогу ВКП "Залессе", ТАА "Жамчужына".

Галоўны спецыяліст смаргонскага выканкома **Вольга Сафонава** распавядае, што ў раёне створаныя 2 цэнтры падтрымкі прадпрымальніцтва. Адзін з іх – "інфарм–цэнтр" – арганізаваў нядаўна цікавы семінар для кіраўнікоў, куды былі запрошаныя прадстаўнікі рэспубліканскага дзяржатамнагляду, камітэтаў па працы, прадпрымальніцтве, фонду фінансавай падтрымкі, міністэрства прадпрымальніцтва і інвестыцый. Усе яны ведаюць найбольш балючыя праблемы малога бізнесу.

*Святлана САРОКА.*

# Субсідыі на прадпрымальніцтва

СМАРГОНЬ. Мясцовы цэнтр занятасці аказвае дапамогу беспрацоўным і тады, калі яны жадаюць займацца ўласнай прадпрымальніцкай дзейнасцю. Сёлета пад гэтую справу атрымалі субсідыю два прадпрымальнікі.

Усяго на смаргонскіх прадпрыемствах малога бізнесу занятыя 2686 чалавек. З іх у МП працуюць 1557, у фермерскіх гаспадарках – 54, у сумесных і замежных прадпрыемствах – 195, у прадпрымальнікаў (разам з імі самімі) – 880.

*Святлана САРОКА.*

ПЫТАННЕ

# Каму на Гудагай?

*Чытач Уладзімір Маркун пытаецца, ці будзе хадзіць з Маладзечна дадатковы ранішні дызель на Гудагай. І мясцовыя жыхары, і мінчане маюць дачы ў гэтым напрамку: Дамашы, Турэц–Баяры, Заскавічы. У летні сезон дабрацца сюды раніцой складана. Цягнік у 8–37 ідзе перапоўнены.*

Начальнік чыгуначнага вакзала **Надзея Сталпінская** кажа, што, на жаль, няма цяпер такой магчымасці. Пытанне падымаецца ўжо другі год. Але дадатковых вагонаў няма. Праблема, на самой справе, існуе, у асноўным, толькі ў выхадныя летнія дні, дакладней, у суботу. Да таго ж, ходзіць яшчэ па гэтым маршруце ў 7–50 (з Маладзечна) пасажырскі цягнік Мінск–Вільня. Білеты ў ім каштуюць даражэй. Але каму да Гудагая, можна ехаць і гэтым.

*Святлана САРОКА.*

ЗДАРЭННІ

# Дапамажыце знайсці чалавека!





СЛОНІМ. 9 мая 1999 года пайшлі на дыскатэку «Оскар» г. Слонім Віталь ХАМЯКОЎ і Анатоль ФІДРЫК. Да цяперашняга часу яны не вярнуліся. Хто бачыў або ведае пра іхняе месцазнаходжанне, паведаміце, калі ласка, па тэл. (01562) 2–00–68, 2–01–69 за ўзнагароджанне. Ананімнасць і прыстойнасць гарантуем.

**Бацькі.**

